На стар. 3 — „ПА ЗАКАВУЛКАХ ВІЛЬНІ"

„NIWA" TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 39 (83) БЕЛАСТОК, 29 ВЕРАСНЯ 1957 г. ГОД II

## Пастанова Міністэрства асветы адносна роднай мовы ў школах нацыянальных меншасцей

31 мая г. г. Міністэрства асветы выдала і накіравала ў Ваяводскія Аддзелы асветы ліст адносна навучання роднай мовы ў школах з непольскай мовай навучання.

Вось важнейшыя ўрыўкі:

1) У пачатковых школах абавязвае навучанне роднай мовы і польскай мовы, а іншую мову (чужую) пераносіцца ў рад прадметаў не абавязковых.

2) Вучні непольскай нацыянальнасці, якія ходзяць у школы з польскай мовай навучання і якія дадаткова вучацца роднай мовы могуць вучыцца ў класах V, VI VII адной мовы чужой.

(Калі напрыклад беларускія дзеці ў V, VI і VII класе вучацца роднай мовы, у школах, дзе беларуская мова ёсць як прадмет, тады навучанне чужой мовы, гэта значыць яшчэ трэцяй мовы, іх не абавязвае В. Л.).

Гэтыя ўрыўкі з Пастановы Міністэрства асветы падаем да ведама настаўнікаў і загадчыкаў беларускіх школ і школ польскіх, дзе беларуская мова навучаецца як прадмет з просьбай заахвоціць беларускіх дзяцей у кл. V, VI і VII вучыцца беларускай мовы замест чужой. Будзе гэта выгаднейшым і лягчэйшым і для настаўнікаў і для вучняў, так як родная мова ім больш знаёмая і блізкая.

В. Л.

## Прадстаўнікі БГ-КТ у міністра культуры

У мінулым тыдні ў міністра культуры і мастацтва, Курылюка адбылася канферэнцыя з прадстаўнікамі Варшаўскага Аддзела БГ-КТ. Тэмай канферэнцыі мела быць абмеркаванне культурнай працы Варшаўскага Аддзела БГ-КТ. Аднак вялікае зацікаўленне міністра агульнымі справамі нашай культуры разгарнула дыскусію над развіццём культурнага жыцця беларускага насельніцтва ў Польшчы. У часе дыскусіі міністр Курылюк высоўваў цікавыя заўвагі адносна працы нашага Таварыства.

В. Ш.

## У Грыбоўшчыне пачынаецца культурнае жыццё

Вечарам, 18 верасня г. г. у Грыбоўшчыне (Сакольскі павет) адбылося арганізацыйнае пасяджэнне членаў Беларускага таварыства, на якім пастаноўлена ўтварыць гурток.

Старшынёю Праўлення гуртка БГ-КТ выбрана Аўгенню Глэмбоцкую, вядомую ў аколіцы дзеячку маладзёжнага руху, былую актывістку ЗМП. Сакратаром Праўлення гуртка выбрана Міхаіла Борыся і касірам — Кастуся Чамеля. Пры гэтым варта падкрэсліць, што ўсё Праўленне складаецца з маладых людзей, поўных энергіі і запалу.

На пачатак сваёй дзейнасці члены гуртка падрыхтуюць пастаноўку беларускай п'есы.

(ся)

## Весткі з парку ў Белавежы

Белавежскі Народны парк у Белавежскай пушчы, гэта бадай адзін з цікаўшых у Еўропе.

Частка дзіка-захаванай пушчы, запаведнік вельмі рэдка сустраканых дзікіх звяроў і іншыя цікавыя асаблівасці прыцягваюць увагу турыстаў і вучоных усяго свету.

Напрыклад у гэтым годзе Белавежскі парк наведалі больш чым 200 замежных экскурсантаў. Былі тут амерыканцы і кітайцы, французы і немцы, вучоныя Беларусі і Югаславіі, турысты з Грэцыі.

Турыстаў ачароўвае прыгожасць дзікай прыроды. Вучоныя знаходзяць тут невычэрпаную крыніцу матэрыялаў да заалагічных, батанічных і лясных доследаў.

Аднак найбольшую цікавасць прысутных прыцягваюць да сябе ўладары пушчы — вялікосныя, белавежскія зубры. Жыве іх тут 46 штук і штогод сям'я іх павялічваецца. У мінулым годзе нарадзілася 9 зубранят, а ў гэтым — ужо 8.

Белавежскія зубры ўпрыгожваюць запаведнікі і іншых Еўрапейскіх краін. На працягу мінулага і гэтага года Польшча падаравала па пары зуброў: Англіі, Балгарыі, Чэхаславакіі і ГДР. Белавеж стаецца вядомай ва ўсім свеце.

(в і а)

## Вінаград на Беласточчыне

Валянцін Врублеўскі жыве на калоніі Пячонка, каля вёскі Лазні ў Сакольскім павеце. Ужо з далёк кідаецца ў вочы яго дом аплецены карэнішчамі вінаграда, прыгожы, дагледжаны фруктовы сад і 12 вулляў пчол. Зацікаўлены прыгожа растучым вінаградам заходжу да Врублеўскага давядацца як выгадаваў ён гэтую рэдка спатыканую ў Польшчы расліну.

— Вінаград пасадзіў я пяць год таму назад — кажа Врублеўскі. У мінулым годзе сабраў 20 кілограмаў фруктаў вінаградных. У гэтым годзе таксама не менш збяру.

— Калі пасадзіў — то людзі не верылі, што ў нашых умовах будзе расці вінаград, але аказалася, што аднак можа расці, толькі патрабуе захадаў.

Врублеўскі — гэта добры садавод і пчаляр — чалавек замілаваны ў сваёй працы, шмат працуе, затое-ж і вынікі мае, што не адзін яму зайздросціць.

Такі сад, і пчолы, і вінаград можа мець кожны, але хай так папрацуе, як Врублеўскі.



*Валянцін Врублеўскі ў вінаградзе каля хаты.*

*Фота — А. О.*

## Народны Кітай



*1 кастрычніка 1949 г. паўстала Народная Кітайская Рэспубліка.*

*На здымку: Пагода «Сунюэсы». На гары Сунтань. Правінцыя Хэнань. 520 г. Вышыня 40 м.*

## Створана Усебеларускае харавое таварыства

Як паведамляе мінская «Літаратура і мастацтва» нядаўна створана Усебеларускае харавое таварыства, на першым пасяджэнні якога зацьверджаны арганізацыйны камітэт. У яго ўвайшлі Р. Шырма, Я. Цікоцкі, Г. Цітовіч, Ул. Алоўнікаў і інш. Мэтай Таварыства будзе садзейнічаць развіццю нацыянальнай харавой культуры, павышэнню майстэрства калектываў, стварэнню новых рэпертуарных зборнікаў. Членамі Таварыства будуць калектывы самадзейнасці і асобныя спевакі. Цяпер у Беларусі налічваецца звыш сямі тысяч харавых калектываў, у якіх удзельнічае каля двухсот тысяч чалавек.

Ад сябе жадаем Таварыству плённай працы.

## Радыёперадачы ў роднай мове

Нацыянальная Камісія пры ЦК ПЗПР абмяркоўвае ў сучасны момант справу перадач праз мясцовыя радыёвузлы праграм у мовах нацыянальных меншасцяў пражываючых у Польшчы.

В. Ш.

## Адкрыццё мемарыяльнай дошкі Я. Ф. Карскаму

У першы дзень заняткаў Лашанскай сямігадовай школы, Гродзенскага раёна, адбылося адкрыццё мемарыяльнай дошкі па ўвекавечанню памяці вядомага беларускага вучонага, акадэміка Яўхімія Фёдаравіча Карскага, які нарадзіўся тут 96 год назад у сям'і настаўніка Лашанскай пачатковай школы.

У Лашанскай сямігадовай школе ёсць куток - музей Я. Ф. Карскага.

**Прыпамінаецца аб падпісцы на „Ніву"**

**Не забудзь да 10.IX.1957 г. наладзць падпіску на месяц лістапад і снежань і напамяні аб гэтым свайму суседу.**

# Мой любімы паэт

Кожны з нас з прыемнасцю ўспамінае мінулае, вяртаецца да гадоў дзяцінства і тут — перад вачыма ўзнікаюць усе лясныя сцяжынкі, якія мы любілі наведваць яшчэ ранняй восенню запунсавелыя лугі і г. д.

Успамінаецца школа. Высокі, белы будынак. Настаўнікі. Сябры і сяброўкі са школьнай лаўкі. Застаюцца таксама назаўсёды ў памяці ўлюбёныя паэты і пісьменнікі, іх лепшыя творы.

У школе больш за ўсё я любіў паэзію. Сэрца маё чула ў ёй больш красы чым у прозе. Хаця, напрыклад, «Дрыгву» і трылогію «У палескай глушы» Я. Коласа я чытаў па некалькі разоў будучы яшчэ ў шостым класе. Вучыўся я добра. Многа чытаў, выкарыстоўваючы ўсе вольныя хвіліны ад працы ў гаспадарцы маіх бацькоў, а таксама святочныя дні. У дома не было кніжак. Мне пазычалі іх добрыя настаўнікі з Барысюкі і Ласінкі. І вось памятаю аднойчы ў скромнай бібліятэцы настаўніка Г. Каролькі натрапіў я на зборнік твораў Паўлюка Труса. Мяне ён вельмі зацікавіў. Мо' таму, што аб Трусу я нічога да таго часу не ведаў? Здаецца, гэта былі выбраныя творы, выдадзены ў 1934 ці ў 1940 годзе. Добра не помню. Хопіць сказаць такі факт, што паэма «Астрожнік» спадабалася мне на столькі, што я яе вывучыў зараз-жа на памяць і ўмеў па-школьнаму імправізаваць.

Але цяжка было мне тады зразумець усю красу паэзіі Паўлюка Труса, выдатнага беларускага паэта і грамадскага дзеяча 20-х гадоў.

Будучы ў вясковым бібліятэчным пункце ў Гарадзіску я ўбачыў тут зборнік твораў Труса, узяў яго дамоў і прачытаў «па-новаму», стараючыся зразумець глыбей творчасць паэта.

Пастараюся падзяліцца, хаця ў вельмі агульным нарысе, сваімі скромнымі ўвагамі і ўражаннямі аб маім любімым паэце, якога пакахаў я так шчыра, як ён кахаў сваю радзіму, дбаў аб яе культурнае і гаспадарчае развіццё.

Трус глыбока зразумеў перамены, якія прышлі з Вялікім Кастрычнікам і шчыра вітаў палымяным паэтыцкім словам усіх тых, хто ішоў насустрач гэтым пераменам, заклікаючы адначасова да актыўнай перабудовы культуры і гаспадаркі сваёй роднай краіны.

У сваіх агітацыйных вершах паэт звяртае вялікую ўвагу на вёску, ведаючы, што там перадусім цяжка пабудаваць новы лад. Нічога дзіўнага, ён нарадзіўся ў вёсцы, вырас у ёй, кахаў яе шчыра і добра ведаў сялянскае жыццё.

*Ой, вёска, вёска пры гасцінцы!*
*Пад ціхі гоман вербалоз,*
*Яшчэ з гадоў свайго дзяцінства*
*Я пакахаў цябе да слёз!*

— Піша паэт у 1942 годзе ў вершы «Я пакахаў цябе да слёз».

Вялікую роль адыйгрывае ў яго мове метафара. Як спрытна перапосіць паэт нашу думку ў мінулае, каб ляпей усвядоміць сабе сённешняе пры дапамозе, напрыклад, адухатварэння мёртвых прадметаў прыроды.

Вось, як гэта зроблена паэтам у вершы «Золак вясны»:

*Мінулых дзён размытыя вадою*
*Дазорцы вольныя і сведкі — курганы*
*З туману цягнуцца, выходзяць грамадою*
*Пабачыць характво чаруючай вясны.*

Курганы — сімвал мінуўшчыны, сведкі цемры і галечы, здзекаў і бязлітаснай эксплуатацыі бедных багатымі «выходзяць грамадою», каб «пабачыць харатво» новага, якое называе паэт «чаруючай вясною».

Трусу не была чужая вусная народная творчасць. Яшчэ ў дзяцінстве ён любіў слухаць, як моладзь па вечарынках спявала песні, а старэйшыя расказвалі казкі. Таму, у радзе яго вершаў адчуваем матывы народных песень. Гэта такія вершы як: «Ой, з-за горкі...», «Ой, у полі, за гарою», «Ой, у лузе пры даліне» і многа іншых. У іх вельмі характэрная артыстычная перапрацоўка вуснай беларускай паэзіі — простая сюжэтная аснова, зразумелая паэтычная мова і вобразныя сродкі.

У самым росквіце сваёй творчасці паэт піша паэмы. Лепшыя з іх — гэта: «Дзесяты падмурак», «Юны змаганец», «Астрожнік».

Паэма «Астрожнік» і «Юны змаганец» прысвечаны тэме грамадзянскай вайны. Яны расказваюць аб геаічнай барацьбе беларускай моладзі. Іх лірычныя героі — гэта героі барацьбы за Савецкую Беларусь.

У канцы нашых разважанняў аб Трусу можам сказаць адно, што гэта паэтычная індывідуальнасць, творчасць якой унесла ў беларускую паэзію, а лепш сказаць паглыбіла, новыя сродкі ўспрыняцця рэчаіснасці: умелае спалучэнне таго, што чалавек бачыць, з тым, што чуе яго сэрца.

Калі чытаем вершы Труса, нам здаецца, што мы ўсё самі перажываем ці ўжо перажывалі. А гэта важна.

МІХАСЬ КУРАШ
Гарадзіска, жнівень 1957 г.

*Усякая ўсячына*

## У якіх краінах жанчыны пазбаўлены правоў

Як вынікае са справаздачы генеральнага сакратара Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў у 11 дзяржавах жанчыны не маюць выбарчых правоў.

Гэта значыць: у Швейцарыі, Ліхтэнштайне, Сан Марыно, Афганістане, Іране, Іраку, Іярданіі, Лібіі, Парагваю, Арабіі Саўдыйскай і Етэн. Абмежаваныя, выбарчыя правы маюць жанчыны ў Егіпце, Гватэмалі, Манако, Партугаліі і Сірыі.

## Матацыклам на ваўкоў

Калгаснік Цітаў едучы матацыклам дамоў убачыў, што ваўкі напалі на стада авечак. Доўга не думаючы ён з найбольшай хуткасцю кінуўся на ваўкоў. Першы згінуў важака. Іншыя пачалі ўцякаць, але Цітаў кінуўся ў дагонку. Такім чынам палажыў яшчэ двух ваўкоў. Чацвёртага, які кінуўся на яго, — адагнаў нагою.

## Культурная місія без заслонак

Англійскі міністр калоніі падаў да ведама, што на 859.000 афрыканскіх дзяцей у школьным узросце ў калоніі англійскай Танганіка, у Афрыцы, ходзіць у школу ўсяго 336.000. У Брытыйскай Самалі на 600.000 жыхароў ёсць усяго 17 пачатковых школ, у якіх вучыцца 1.290 дзяцей. Рэшта дзяцей не мае магчымасці вучыцца ў школе.

Так маецца культурная місія англійскіх імперыялістаў у сапраўднасці.

## Небяспечная рыба

За найбольш небяспечную рыбу лічаць акулу. Гэта сапраўды страшная рыба. Акула даходзіць размерам да 11 м даўжыні, атакуе не толькі купаючыхся людзей, але і невялікія лодкі. Аднак ёсць яшчэ больш небяспечныя рыбы — раванкі. Жывуць яны ў рэчках Поўднёвай Амерыкі. Даўжынёй усяго 20—30 см.

Гэта рыба мае так вострыя зубы, што як брытвай адразае мяса разам з касцямі ў жывёліны ці чалавека, на якія трапіць у вадзе. Рыба гэта трымаецца стадамі, якія лічаць па некалькі сот, а нават тысяч штук. Гэткае стада атакуе і разрывае на кускі найбольшую жывёліну.

## Выпадак ад ветру

У японскай сталіцы Токіё чатырох рабочых у прысутнасці многіх гледачоў, працавала на вежы тэлевізійнай станцыі. Неспадзявана моцны подзьмух ветру пераламаў вежу ў палавіне і работнікі панеслі смерць. Шмат прысутных жанчын памлела.

## Смех лякарствам на бяссонніцу

У арабскіх краінах ёсць такое зелле, насенне каторага арабы сушаць і таўкуць на парашок, які зажываецца як табаку. Зажыццё гэтага парашка выклікае нястрыманы смех. Гэты смех трывае вельмі доўга, а змучаны ім чалавек засынае.

## Шаршні ў судзе

У Бразілійскім горадзе Эспрыто Санто, падчас судовага працэсу ў залу праз адчыненае акно ўляцеў рой шаршнёў. Усе прысутныя ў тым ліку і суддзя змушаны былі ўцякаць з залы. Незадоўга ўсе вярнуліся ў залу за выключэннем абвінавачанага, які выкарыстоўваючы суматоху «адляцеў» разам з шаршнямі.

## Колькі хто мае зубоў?

У вялікіх жывёл мала зубоў. Так, велізарны марскі нарваль мае ўсяго 2 зубы, кіт — 60, слон — 6, а найбольш 10 зубоў. Чалавек, малпа, вол, сарна, авечка маюць па 32 зубы. Кролікі і зайцы — па 28. А найбольш зубоў мае слімак, язык каторага падобны да пілы і звінуты істужкай, а на ім шмат малюсенькіх зубоў — да 30.000. Агародны слімак мае іх 14.175.



*Радомская фабрыка папяросаў вырабляе 49 мільёнаў папяросаў у дзень.*

*На здымку: фрагмент фабрычнага аддзела з машынамі да вырабу папяросаў.*

*Парады гаспадарам*

## Мор курэй

Найбольш небяспечнай курам хваробай ёсць мор. Ад гэтай хваробы гіне 90 прац. курэй. Заражаюць іх гэтым мікраарганізмы, так званыя, вірусы. Хворыя штукі маюць гарачку і «бегунку». Курыныя грэбені робяцца цёмначырвонымі. Хворыя штукі стаюцца соннымі, не хочуць есці, маюць апушчаны крылы і з дзюбы плыве слізісты раствор. Дыхаючы адкрываюць шырока дзюбы.

Хварэюць некалькі дзён і здыхаюць. Мор — гэта вельмі заразлівая хвароба. Нават вылечаныя штукі выдзяляюць доўга (некалькі месяцаў) яшчэ заразкі. Гэтыя заразкі ёсць таксама на яйках і мясе хворых курэй — даволі прадаць у другую вёску яйка ад хворай курыцы і ўжо можа ўзнікнуць эпідэмія.

Каб забяспечыць здаровыя куры ад мору, патрэбна хворыя штукі адзяліць і добра вычысціць і вышараваць гарачай вадою з лугам куратнік. Найлепш ужыць гарачую ваду з содаю ў такой прапорцыі: 20 дкг. соды «каўстычнай» растварaем у 1/3 літра перагатаванай вады і пасля мяшаем з 10-мі літрамі чыстай вады. Курам трэба даваць піць воду з 0,1 прац. дадаткам саліцылёвага квасу і 0,25 прац. сольнага квасу.

Куры, якія здохлі на мор, трэба спаліць або абліўшы нафтай глыбока закапаць. Хворыя куры найляпей зарэзаць, таму што іх лячэнне найчасцей не ўдаецца. А здаровым курам даць уколы (застшыкі) з індыйскай шчэпёнкі. Яна робіць арганізм устойлівым на мор на час 8—12 месяцаў.

Пасля гэтай шчэпёнкі куры праз 2—3 тыдні менш нясуцца.

Уколы найлепш рабіць восенню, калі куры добра кормяцца і не так інтэнсіўна нясуцца.

інж. Віталі Мірон

*Куток гаспадыні*

## Марынады

Марынаваць можна розныя ягады, садавіну, гародніну, грыбы. Зімой яны могуць быць добрай закускай, іх можна падаваць да смажанага мяса і, нарэшце, выкарыстоўваць для салатаў і вінегрэтаў. Якасць марынаду ў многім залежыць ад якасці воцату. Асабліва смачнымі атрымліваюцца марынады, прыгатаваныя на вінаградным воцаце або сталовым, настояным на араматычных травах. Калі воцат моцны (6-працэнтны), яго трэба развесці напалавіну з вадой, пасля чаго дадаць соль, цукар, перац, карыцу, гваздзіку, мускатны арэх, лаўровы ліст, пракіпяціць усё гэта і ахаладзіць. Падрыхтаваныя фрукты або гародніну пакласці ў шкляныя слоікі і заліць ахалоджаным воцатам. Каб засцерагчы марынад ад плесні рэкамендуецца заліць яго тонкім слоем алею

ЯНКА ДУБІЦКІ

# КАБАНЧЫК

(Апавяданне)

Падыходзіў поўдзень. Сонца пякло так, што нават і жаваранкі пахаваліся. Мы, — гэта значыць многа нас хлапчукоў, былі над рэчкай. Некаторыя купаліся, другія ляжалі ў халадку. Настрой ва ўсіх быў вялы. Нічога не хацелася рабіць. Так праляжалі мы з чатыры гадзіны.

У поле не хадзілі. Бацькі нас не бралі, таму, што мы пільнавалі сады, гусянят, курэй і інвентар. Апрача таго хадзілі мы на пасбішча па каровы. Сам пастух не мог-бы прыгнаць кароў з поля таму, што каровы разбегліся-б па шкодзе.

І так выляжаўшыся, пайшлі мы па каровы.

Вось і Зады — так звалі пасбішча. Аб Задах вяліся паміж старымі цікавыя гісторыі. На гэтым пасбішчы ў час Айчыннай вайны цягнуліся вялікія бaі. Тут Чырвоная армія разбіла вялікую калону танкаў, бронеаўтамабіляў. Гаварылі нават людзі, што адзін краснаармеец меў з сабой фільмавыя прылады і накручваў ён напэўна фільм. Але потым яго тут-жа забіла і ўсё згарэла.

Пасля вайны на Задах валялася многа патронаў, пораху, снарадаў і бомб. Час-ад-часу, то там, то тут хтось знайшоў залатую люльку, аловак, вечнае пяро і калі толькі лёгка стукнуў тым, чалавека разносіла на кускі. Бацькі нашы ведалі аб гэтым, але асаблівай увагі не звярталі. Як заўсёды, так і цяпер мы накіраваліся на месца бою. З гэтуль выносілі мы па кішэні добрых, цудам ацалеўшых патронаў.

— Эй, хлопцы, сюды! — раптам пачуўся крык Васі. Мы паглядзелі адзін на другога і асцярожна падышлі да Васі. Выглядваем з-за кустоў, Вася стаіць цэлы, а ў нагах яго ляжыць «кабанчык». «Кабанчыкам» звалі мы снарады. Яны былі такія цяжкія, што і ў пяцёх трудна было падняць.

— Бачыце, што знайшоў! — гаварыў Вася.

Мы пачалі аглядаць «кабанчыка», які быў сапраўдным кабаном.

— Калі толькі знайшоў, так зразу падумаў «выпароць» яго. «Выпароць!» — гэта значыла ўзарваць.

— Добра гаворыш — сказаў Алёша. — Па-першае мы зробім добрую работу, не будзе няшчасця, па-другое для нас будзе прыемна. Далей Алёша гаварыў у нейкім захапленні:

— Вось паўстане такі вобраз: гарыць агонь, ляжыць «кабан» і раптам... стоўб дыму і агню. А такі будзе ўзрыў, што...

— Хлопцы, як хочаце ўзарваць то рабіце цяпер, бо зараз-жа прыдуць каровы і тады... ведаеце — хтось там падказаў.

— Так хто бярэцца памагчы мне — сказаў Жорж, бяручыся за «кабана».

— А дзе-ж мы яго паложым, га? — запытаў Коля.

— Дзе? Я знаю! Каля дарогі расце дрэва. Вось там і паложым. Пабачыце як дрэва зваліцца — гаварыў Лявон. Так і зрабілі. Занеслі мы «кабана» пад дрэва, палажылі. Хутка нанасілі вялікую кучу галля і падпалілі, а самі, як мага хутчэй пабеглі ў зараснікі. Селі ў такім месцы, што агонь быў відны. Раптам... аж сэрца перастала на хвіліну біць, зза гары выехаў селянін. Ехаў ён памалу, не спяшаючыся і не прачуваючы нічога. Мы падубелі. А што, калі заб'е? Агонь ужо дагараў. Селянін быў штораз бліжэй. Вось-вось выраўняецца з дрэвам. Уладзік, што быў найбліжэй, крыкнуў селяніну:

— Эй, дзядзька -а-а, там снарад ля...

Не дакончыў. У гэты момант пачуўся страшэнны выбух. Здавалася, што зямля сама гэта паказала сваю сілу. На зямлю апускаўся пыл. Далёка, далёка параскідваны былі галіны. Калі ўсё сцішылася — пабеглі глядзець, што з селянінам.

І вось які малюнак прадставіўся. На тым месцы, дзе расло дрэва — была глыбокая яма. Далей у зарасніках стаяў воз з канём. Пад возам ляжаў і стагнаў селянін. Усё, аж страх глядзець, было пабіта, паломана.

Гэтае разбуранае вогнішча напамінала вайну. Хоць яна і пагасла, усё-такі, то тут, то там, выбухаў пламеньчык і паглынаў здаровыя кускі дрэва.

Бельск 1957

